Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№38 (1055) 23 лютага 1995 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 552417 экз. Кошт у розніцу — 150 руб.

## Прывітанне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з нагоды Дня абаронцы Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь

Паважаныя воіны Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, салдаты, старшыны, прапаршчыкі, афіцэры і генералы!

Паважаныя ветэраны, воіны запасу!

Паважаныя суайчыннікі!

Сардэчна віншую вас з усенародным святам — Днём абаронцы Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

У нашага народа багатая ваенная гісторыя, якой мы па праву ганарымся. Мы ніколі не схілялі галавы перад агрэсарам і акупантам. У самыя цяжкія і трагічныя перыяды сваёй гісторыі беларускі народ не падаў духам, не губляў мужнасці і надзеі. Тысячы нашых землякоў пакрылі сябе нязгаснай славай на палях бітваў Вялікай Айчыннай, а ўся рэспубліка вядома свету як рэспубліка-партызанка. Прызнаннем важкага ўкладу нашага народа ў барацьбу з фашызмам з'явілася тое, што Беларусь стала адным з заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Напярэдадні вялікага свята, агульнага для ўсіх дзяржаў, што ўтварыліся на тэрыторыі СССР, усіх удзельнікаў антыгітлераўскай кааліцыі, — 50-годдзя Перамогі над фашызмам, яшчэ раз сыноўскі дзякуй усім удзельнікам вайны.

Светлая, вечная памяць усім загінуўшым у баях супраць агрэсара.

Сёння мы ідзём шляхам самастойнага дзяржаўнага развіцця. Наша мэта — будаўніцтва дзяржавы, у якой бы людзі жылі ўтульна і шчасліва. Мы хочам, каб з усімі краінамі, і перш за ўсё з суседзямі, у нас былі добрыя адносіны, давер адзін да аднаго.

Неад'емным інстытутам дзяржавы заўсёды былі, ёсць і будуць Узброеныя Сілы як адзін з важнейшых гарантаў яе незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці. Мы пачалі напружаную працу, каб прывесці Узброеныя Сілы, увесь абаронны комплекс краіны ў цэлым у адпаведнасць з нашымі палітычнымі задачамі, міжнародным і ўнутраным становішчам, сацыяльна-эканамічнымі магчымасцямі.

Палітычнае кіраўніцтва рэспублікі і я як Прэзідэнт зробім усё неабходнае для аднаўлення прэстыжу вайсковай службы. У нас будзе армія, пра службу ў якой будзе марыць наша моладзь, армія, якая будзе карыстацца любоўю і падтрымкай народа, здольная разам з народам абараніць сваю краіну, сваю Айчыну.

Віншую ўсіх, хто сёння чэсна і добрасумленна выконвае свой воінскі абавязак!

Са святам вас, дарагія суайчыннікі!

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

## ФАКС

*ФАКТЫ*АРГУМЕНТЫ*КОММЕНТАРИИ*СОБЫТИЯ*

### Вкратце

***Угрозы Дудаева устроить 23 февраля - в 51-ю годовщину депортации чеченцев и ингушей — "варфоломеевскую ночь" и провести акции против федеральных войск "практически не осуществимы".***

Об этом заявил в среду высокопоставленный военный в Моздоке (Северная Осетия). Он подчеркнул, что российские подразделения "в состоянии дать отпор любым нападениям".

❑

***Президент Ингушетии Руслан Аушев назвал "бессмысленными" военные действия, которые ведут в Чечне федеральные войска.***

"Нельзя восстанавливать конституционные права одного за счет убийства другого", - заявил он, выступая в Назрани в среду на церемонии открытия съезда солдатских матерей с участием представителей более чем 20 городов России.

❑

***1 марта начнется бессрочная политическая забастовка шахтеров Воркуты.***

Решение об этом принято вечером 21 февраля на экстренном заседании Совета воркутинской федерации "Росуглепрофсоюза". Горняки настаивают на досрочных выборах президента России, отставке правительства и проведении руководством страны социальной политики, отвечающей интересам трудящихся России. Также выдвинуто требование о немедленной выплате задолженности по заработной плате рабочим объединения "Воркутауголь" в сумме 28,7 млрд. рублей.

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на торгах Московской межбанковской валютной биржи в среду упал на 27 пунктов по сравнению с торгами во вторник и составил 4384 рубля.***

❑

***Россия и Индия, в рамках сотрудничества по проблемам мирного использования атомной энергии, намерены подписать в первой половине 1995 г. соглашение о сооружении атомной электростанции в населенном пункте Куданкулам в Индии.***

### Ставки снижены

С учетом стабилизации курса валюты и ожидаемого уровня инфляции за февраль текущего года, Национальный банк установил с 21 февраля по 20 марта (либо с 1 по 31 марта, в зависимости от порядка исчисления процентов) учетную ставку по централизованным кредитным ресурсам Национального банка в размере 25% в месяц, обязательную минимальную ставку по вновь заключаемым банками договорам по срочным депозитам — 25%, по депозитам до востребования — 10% в месяц.

**Дмитрий ЖУК.**

### Задержаны с оружием

***Как уже сообщалось в прессе, в начале февраля двое военнослужащих срочной службы рядовые И.Будилович и Г.Григоренко совершили побег из караула одной из частей войск ПВО, прихватив с собой два автомата Калашникова с боеприпасами.***

И вот, как стало известно пресс-службе Министерства обороны, 21 февраля беглецы были задержаны работниками органов внутренних дел в деревне Погост, что недалеко от г.Орши. Оружие и часть боеприпасов были при задержанных. Мотивы и обстоятельства совершенного преступления выяснит дальнейшее расследование.

**Владимир ЦАСЮК.**

### Дни украинского кино в Минске

***С 23 по 26 февраля в минском кинотеатре "Победа" в рамках Дней культуры Украины в Республике Беларусь пройдут Дни украинского кино.***

В их программе — художественные кинокартины "Для домашнего очага" режиссера Б.Савченко, "Долой стыд" (О.Муратов), "Записки веснушчатого Мефистофеля" (Ю.Лященко), фильм "Глос травы", созданный режиссером Н.Мотузко, а также кинолента "Вперед, за сокровищами гетмана".

**Роман КОСТИН.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, БелаПАН, РИД.**

## Беларусь — Расія: па шляху інтэграцыі

Візіт у Мінск Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына прадоўжыўся 22 лютага. Афіцыйная дэлегацыя Расіі ў гэты дзень наведала МАЗ, кіраўнік дзяржавы выступіў перад творчай і тэхнічнай інтэлігенцыяй у Акадэміі навук Беларусі.

"Мы ўсе разам павінны ўмацоўваць СНД, паколькі альтэрнатывы гэтаму саюзу на дадзеным этапе няма", — заявіў старшыня Савета кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці, Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын, які 22 лютага сустракаўся з выканаўчым сакратаром СНД Іванам Каратчэняй.

У ходзе гутаркі, што праходзіла ў рэзідэнцыі "Заслаўе-1", абмеркаваны праблемы далейшага паглыблення і паскарэння працэсу інтэграцыі, умацавання Садружнасці на міжнароднай арэне. Прапанавана падрыхтаваць неабходныя дакументы аб адкрыцці прадстаўніцтваў СНД пры ААН і іншых аўтарытэтных міжнародных арганізацыях і ўнесці іх на пасяджэнне Савета кіраўнікоў дзяржаў. Субяседнікі адзначылі той факт, што дакументы, прынятыя ў рамках Садружнасці, працуюць не так эфектыўна, як гэтага хацелася б. Таму была адзначана неабходнасць выпрацоўкі механізма рэалізацыі шматбаковых дагавораных суадносін у рамках СНД, асабліва ў эканамічнай сферы, прыняцця дзяржавамі спецыяльных нарматыўных актаў, якія ўстанаўліваюць парадак ажыццяўлення ўзгодненых рашэнняў і адказнасць за іх невыкананне.

Шмат увагі было ўдзелена дзейнасці статутных органаў СНД, хутчэйшаму станаўленню Міждзяржаўнага эканамічнага камітэта, запуск якога на поўныя абароты, паводле слоў Б.Ельцына, недапушчальна зацягваецца. Расійскі Прэзідэнт падкрэсліў, што стварэнне МЭКа лагічна павінна выклікаць змяненне ролі Выканаўчага сакратарыята з надзяленнем яго не толькі каардынуючымі, але і аналітычнымі, а магчыма, і кантрольнымі функцыямі. Узнімалася таксама праблема ўдасканалення практыкі пасяджэнняў Савета кіраўнікоў дзяржаў.

Паколькі прадугледжваецца, што чарговы саміт пройдзе ў маі ў Мінску, то і Барыс Ельцын, і Іван Каратчэня адзначылі, што беларускі вопыт можа быць карысным для ўсіх іншых краін —удзельніц СНД. "Тым больш што будзе магчымасць убачыць яго на справе", — падкрэсліў выканаўчы сакратар СНД.

Хлебам і соллю сустракалі сёння раніцай Прэзідэнта Расіі на Мінскім аўтамабільным заводзе. "Нам трэба ісці шляхам інтэграцыі ва ўмовах жорсткага сусветнага рынку", — сказаў высокі госць, аглядаючы прадукцыю, прадстаўленую на выстаўцы прадпрыемства. Барыс Ельцын і Аляксандр Лукашэнка ў час наведвання завода паведамілі, што імі абмеркавана пытанне аб стварэнні магутнай канкурэнтаздольнай аўтамабілебудаўнічай карпарацыі...

Як сказаў Барыс Ельцын, ён надае гістарычнае значэнне свайму візіту ў Мінск і падпісанню расійска-беларускага дагавора. Размова ідзе, адзначыў ён, аб агульным дагаворы, "ён і палітычны, і эканамічны, і сацыяльны".

"Усё, што мы запланавалі з Прэзідэнтам Беларусі зрабіць у ходзе майго візіту ў Мінск, поўнасцю выканана", - заявіў Барыс Ельцын на імправізаваным заключным брыфінгу для журналістаў пасля выступлення перад навуковай і творчай інтэлігенцыяй рэспублікі ў Акадэміі навук Беларусі. Паводле яго слоў, былі падпісаны ўсе дакументы, якія на працягу трох месяцаў з велізарным напружаннем рыхталіся вялікай групай спецыялістаў. Гэта значыць, на яго думку, што створана або ствараецца прававая база далейшага ўзаемадзеяння дзвюх дзяржаў, паглыблення супрацоўніцтва і інтэграцыі. "Далей трэба зрабіць усё неабходнае, каб рэалізаваць гэтыя дагаворы і пагадненні. Me навіта таму мы прыйшлі да думкі: усё, аб чым ішла размова ў час афіцыйных перагавораў, у ходзе гутарак на МАЗе, у аўтамабілі, за абедзенным сталом і гэтак далей, але што не знайшло месца ў пагадненнях, павінна быць занесена ў спецыяльны пратакол, які ляжа на стол абодвум прэзідэнтам, каб мы маглі пракантраляваць выкананне таго, аб чым дагаварыліся ў Мінску", — сказаў Барыс Ельцын.

Расійскі Прэзідэнт таксама адзначыў, што праведзеная сустрэча з беларускай інтэлігенцыяй яшчэ раз пераканала яго ў неабходнасці стварэння самых спрыяльных умоў для супрацоўніцтва вучоных абедзвюх дзяржаў.

У другой палавіне дня Прэзідэнт Расійская Федэрацыі Барыс Ельцын і асобы, якія яго суправаджалі, з аэрапорта Мінск-2 вылецелі ў Маскву.

**Белінфарм.**

❑ *У час падпісання Дагавору аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве.*

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, Белінфарм.**

На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## ...І кіпелі страсці

**Павел СТАСЕВІЧ**

"Рознае" пачалося выступленнем дэпутата П.Садоўскага, які паставіў кропкі над "і" ў дачыненні да запрашэння дэпутата А.Лябедзькі адной замежнай фірмай у дзелавую паездку. Аб гэтым у свой час гаварыў дэпутат С.Антончык, але А.Лябедзька з ім не пагадзіўся. Сам факт запрашэння быў, адзначыў П.Садоўскі, а што за ім стаіць — справа ўжо іншая.

Аб драматычным становішчы на Смаргонскім заводзе аптычнага станкабудавання расказаў дэпутат А.Э.Вярцінскі. Ён нават звярнуўся з просьбай разгледзець работу гэтага унікальнага прадпрыемства на дзяржаўным узроўні.

Амаль "франтавым" было выступленне народнага дэпутата А.Кузьмы. Ён зачытаў зварот жыхароў Свіслацкага раёна, дзе яны абураюцца тымі метадамі, якімі ўсталёўваецца ў іхнім раёне прэзідэнцкая "вертыкаль". Даў А.Кузьма і сваю ацэнку дзеянням у гэтай сітуацыі і старшыні Гродзенскага аблвыканкама А.Дубко.

Дэпутат М.Сасноўскі абураўся тымі расцэнкамі, якія ўстаноўлены на спажыванне электраэнергіі ў дачыненні да адзінокіх пажылых людзей. На думку парламентарыя, яны разыходзяцца са здаровым сэнсам.

Працяглым было выступленне народнага дэпутата А.Спіглазава, і дадатковы час яму быў дадзены нездарма. А.Спіглазаў сам гаварыў мала, а больш цытаваў дакументы, у якіх абазначаны правы так званых грамадскіх інспектараў Службы кантролю Прэзідэнта. Яны такія, што, вобразна кажучы, ні ў якія прававыя "вароты" не лезуць, і А.Спіглазаў звярнуўся да Пракуратуры ўважліва паглядзець, каму гэта выгадна.

Некалькі дэпутацкіх запытаў зрабіла і Г.Сямдзянава: чаму лічыльнікі на энерганосьбіты заказваюцца за мяжой, а не робяцца ў рэспубліцы? Чаму з боку Прэзідэнта ў абход Вярхоўнага Савета робяцца спробы стварыць "паліцэйскую дзяржаву", а Канстытуцыйны суд маўчыць?

Пасля такога "Рознага" ў Авальнай зале спакайней не стала. Тым больш што пражыты дзень на фоне візіту Б.Ельцына і падпісаных ім разам з А.Лукашэнкам дакументаў даў многім дэпутатам сур'ёзныя падставы для сумненняў у выгаднасці такіх пагадненняў для Беларусі. Бо, як адзначалі Л.Зданевіч, Г.Сямдзянава, Б.Гюнтэр, У.Заблоцкі, дэпутатаў Вярхоўнага Савета папярэдне нават не азнаёмілі са зместам гэтых дакументаў, тым самым, на іх думку, парушана і Канстытуцыя рэспублікі. А З.Пазьняк увогуле ахарактарызаваў падпісанне пагадненняў выразам: "Ідзе здача Беларусі..."

Амаль усё далейшае дзённае пасяджэнне прайшло ў хуткім і дзелавым стылі.

Спачатку парламентарыі разабраліся з пытаннем "Аб суадносінах актаў Вярхоўнага Савета, якія маюць юрыдычныя наступствы".

Парламент яшчэ раз зацвердзіў сваё рашэнне, паводле якога пастановы Вярхоўнага Савета, прынятыя ў межах яго кампетэнцыі, абавязковыя для выканання ўсімі і на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Затым дэпутаты зацвердзілі суму, якая спатрэбіцца для правядзення новых выбараў у Вярхоўны Савет. Парламентарыі спыніліся на лічбе, што стаіць у бюджэце, — 68 мільярдаў рублёў. Выбары ж у мясцовыя органы ўлады абыдуцца ў 35 працэнтаў ад вышэйназванай сумы. Грошы немалыя, але ж, як паказвае гісторыя, дэмакратыя і свабода каштуюць намнога даражэй.

Вызначыліся ўчора нашы парламентарыі і па іншых, важных для грамадства, пытаннях: статусе і правах бежанцаў; інспектарах працы ў прамысловасці і гандлі; арганізацыі службы занятасці; скасаванню прымусовай працы; унеслі яснасць у адносіны арміі і палітычных партый.

Больш цяжка "праходзілі" змяненні і дапаўненні ў Закон аб Канстытуцыйным судзе. Па многіх дапаўненнях, напрыклад аб ільготах членам Канстытуцыйнага суда, дэпутаты так і не знайшлі паразумення. Разгляд пытання быў прадоўжаны і на вячэрнім пасяджэнні.

❑

Напрыканцы хачу ўнесці яснасць наконт змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце", пра які пісаў у папярэдняй справаздачы і які выклікалі пытанні ў былых прафсаюзных і камсамольскіх работнікаў. У стаж службы ў дзяржаўным апараце залічваецца работа інспектараў працы, якія да 30 верасня 1993 г. працавалі ў сістэме прафесійных саюзаў і на момант увядзення гэтага закона ў дзеянне з'яўляюцца служачымі дзяржаўнага апарату.

Як бачна, іншыя работнікі прафсаюзаў і камсамола, пра якіх таксама гаварылася на сесіі, у закон пакуль што не трапілі. Але паколькі закон будзе накіраваны на подпіс Прэзідэнту, то пажывём-пабачым...

НЕАФИШИРУЕМАЯ ЧАСТЬ ВИЗИТА

## В то время, как Борис Ельцин подписывал один протокол, его супруга нарушала другой...

### Блиц-интервью «не для печати»

Чего уж греха таить: архитектор Юрий Иванович Сердюков приезда Бориса Ельцина в Минск ждал, втайне надеялся если не на встречу, то, в крайнем случае, на телефонный разговор. Телефон не заставил себя долго ждать: в понедельник, 20 февраля, часов около одиннадцати вечера позвонили.

— Алло? Квартира Сердюковых?

— Да.

— Юра, здравствуй! Это — Наина Ельцина...

— Узнал, узнал... Рад слышать, Наина Иосифовна! А мы с Нелей вас ждем...

— Завтра с Борисом мы прилетаем в Минск. Собери, пожалуйста, наших политехников — Мишу, Виталия, Борю. Их жен. Свою супругу Нелю Петровну пригласи. Так хочется увидеть вас всех...

Наина Ельцина назвала время и место встречи, а Юрий Иванович, созвонившись с Мишей Ворошиловым, Виталием Сальниковым, Борисом Шопоровым и сокурсницей Галиной Брызгаловой, стали думать-гадать, какие сувениры раздобыть для высокой гостьи и тоже сокурсницы по строительному факультету Уральского политехнического.

— И сколько человек собралось?

— Семеро. Ворошилов, Шопоров, супруги Сальниковы, мы с Нелей Петровной и Галина Брызгалова.

— Простите, Юрий Иванович, а какими это ветрами занесло вас в Беларусь?

— Сибирскими. (Усмехается.) А если серьезно, то в конце 60-х мы прочитали в "Строительной газете" приглашение на работу в Беларусь и... взяли билеты до Минска. Молодые были — легкие на подъем...

— А Ельцины?

— Борис и Наина к тому времени были уже людьми семейными, "сниматься с якоря" не рискнули.

— Как-то непохоже на Бориса Николаевича...

— Да, человек он рисковый... Но, знаете, причина у них была — семья, дети...

— Ну, а с Наиной Иосифовной-то как вы встретились в Минске?

— Не поверите — она всех узнала! Хотя не виделись с кем лет 20, а с кем и все 30... Виталий Сальников преподнес Наине букет тюльпанов. Мы прихватили фотокарточки студенческой поры и... потекли воспоминания: "А помнишь?", "А помните?" С воспоминаний о юности, учебе, студенческом общежитии както незаметно разговор перекинулся на "третье поколение сокурсников" — на наших внуков. Вся наша семерка сибиряков-минчан уже пенсионеры. У Ельциных тоже трое внуков подрастают — Борька, Маша и Катя...

— Простите, Юрий Иванович, а из вас троих кто-нибудь за Наиной ухаживал?

— Ладно, выдам тайну. Из нас — никто. А вот первым ее ухажером был Юрий Гагарин — будущий космонавт тогда учился в Оренбурге. Но Борис оказался понастойчивее... Но мы отвлеклись. А на встрече во вторник мы поздравили Наину Иосифовну с днем рождения — у нее день ангела 14 марта. Вручили белорусские сувениры, герб города Минска, а Борису Николаевичу — его книгу "Споведзь на зададзеную тэму" на белорусском языке.

— ...и подняли бокалы?

— Нет-нет, про это писать не стоит — вы же обещали, что интервью будет не для печати...

— И все-таки...

— Был тост за встречу уральцев на белорусской земле, за дружбу белорусов и россиян... Взгрустнули, понятно, что с нами не было Бориса Николаевича. Что же касается Наины Иосифовны, то она была приветлива и мила — слава первой леди России, видно по всему, ей не в тягость. Да, чуть было не упустил одну деталь: воспоминаниям нет конца, время летит, и через каждые 15 минут официальное лицо тактично дает понять: время, отведенное по протоколу для встречи, давно истекло... Но Наина Иосифовна (сразу видно — дипломат!) будто и не замечает, что нарушен протокол встречи. Не поверите — вместо положенных полутора часов мы проговорили два с половиной! Фотографируемся на память и расстаемся — супруга Президента (опять же по протоколу) должна уезжать в загородную резиденцию, в Заславль...

— Что еще запомнилось, Юрий Иванович?

— Вы запомнились. (Шутка, конечно.) Достали вы меня своими звонками да вопросами-расспросами... Неужели у вас в газете все такие... любознательные?

— Почти все. И еще — более полумиллиона читателей. Тоже, знаете ли, народ любознательный...

**Иосиф КАЛЮТА.**

**P.S.** *Прочитав "Блиц-интервью не для печати", главный редактор выждал паузу и написал размашистую резолюцию: "В номер!" Что ж, надеюсь, Юрий Иванович простит нашего редактора.*

❑ ***Студенты Уральского политехнического: крайний справа — Борис Ельцин, рядом с ним молодой "очкарик" Юрий Сердюков, за ними стоит Михаил Ворошилов (г.Свердловск, год 1949-й, фото из семейного архива Ю.И.Сердюкова).***



## Приберегли и для Козырева козырь

***Вчера и позавчера вопреки ожиданиям российский Президент не вышел размяться на теннисном корте. Зато его достойно заменил глава внешнеполитического ведомства России Андрей Козырев.***

Сразу же отмечу, что спарринг-партнеры Бориса Николаевича — ни Шамиль Тарпищев, ни Сергей Леонюк — в Минск не приехали, а посему выбора большого не было. А вот Козырев решил, что грешно упустить такой случай, и вызвал на "дуэль" своего белорусского коллегу Владимира Сенько. Чтобы разнообразить досуг, к министрам присоединились работники Федерации тенниса Беларуси Сергей Тетерин и Семен Каган. В парном разряде Тетерин и Козырев выиграли у Сенько—Кагана.

"В одиночке" Козырев и Сенько дипломатично договорились на ничью, так и не доиграв партию.

"Дела, дела торопят", — говорил россиянин, зачехляя ракетку.

Очевидцы утверждают, что, если бы Козырева "не торопили дела", Сенько взял бы реванш за недавнее поражение.

**Алесь СИВЫЙ.**

## Канстытуцыйны суд выкажацца аб дэнамінацыі

Слуханне справы аб дэнамінацыі беларускага рубля пачалося 21 лютага ў Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь. Ініцыятарам узбуджэння справы стала група дэпутатаў, якая лічыць неканстытуцыйным рашэнне Кабінета Міністраў і Нацыянальнага банка аб дэнамінацыі беларускіх разліковых білетаў. У судзе ад дэпутатаў прысутнічалі Генадзь Казлоў, Яўген Новікаў, Аляксандр Авечкін і Віктар Какоўка. Бок Кабінета Міністраў прадстаўлялі міністр юстыцыі рэспублікі Валянцін Сукала, а Нацыянальны банк — першы намеснік старшыні праўлення Нацбанка Мікалай Кузьміч і памочнік старшыні праўлення Нацбанка Валерый Дашкевіч. Вагі правасуддзя на гэтым пасяджэнні былі ў руках старшынствуючага суддзі Валерыя Ціхіні і іншых членаў Канстытуцыйнага суда. Акрамя таго, тут жа знаходзіліся спецыяльна запрошаныя эксперты і спецыялісты.

На думку дэпутатаў, якія сталі ініцыятарамі ўзбуджэння справы, пастановай аб дэнамінацыі парушаны правы грамадзян у частцы гарантаванага Канстытуцыяй права ўласнасці і права грамадзян як уласнікаў грашовых сродкаў. Дэпутаты лічаць, што неабходна вывесці з-пад дэнамінацыі ўклады грамадзян, што знаходзяцца ў Ашчадным банку на момант дэнамінацыі.

На праведзеным пасяджэнні Канстытуцыйны суд таксама заслухаў "адказчыкаў". Ад Нацыянальнага банка выступіў першы намеснік старшыні праўлення Мікалай Кузьміч, а Кабінет Міністраў прадставіў міністр юстыцыі Валянцін Сукала. Слуханне справы працягваецца.

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ, Белінфарм.**

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

СТАЛА ВЯДОМА

## На Камароўцы б такія цэны

***Зайздросную актыўнасць у памежных з Расіяй сельскіх населеных пунктах праяўляюць "прадпрымальныя" хлопцы.***

У Сенненскім раёне асобы, пераважна з Каўказа, скупляюць у вяскоўцаў бульбу і іншую гародніну, маладняк свіней і буйной рагатай жывёлы, каб потым з "наварам" перапрадаць за мяжой.

А дапамагае ім у гэтым наша "родненькая" дзяржава. Сяляне па некалькі месяцаў не атрымліваюць зарплату ў калгасах і саўгасах і вымушаны за бясцэнак збываць прадукцыю з уласных падвор'яў. Кілаграм бульбы, напрыклад, ідзе за 900 "зайчыкаў".

**Аляксандр ЛАЗЮК.**

## Каму ў Чавусах жыць добра

***Суд прызнаў незаконнай выдачу ордэра на катэдж, атрыманы старшынёй Чавускага райвыканкама Арцёмам Белаглазавым.***

Тым не менш высяляць яго з новых харомаў ніхто не збіраецца — іншага жылля, раўнацэннага папярэдняму, якое займаў Белаглазаў, у Чавусах няма.

Што ж датычыцца маральна-этычнага аспекту праблемы, то яго абмяркоўваць не варта. Раённым "вертыкальным" А.Белаглазаў стаў каля двух тыдняў назад і тады ж заўважыў, што вельмі "даражыць давер'ем людзей і давер'ем дэпутатаў". Дарэчы, дэпутаты, ужо ведаючы гэты непрывабны для Белаглазава факт, усё ж настаялі на яго выбранні. Ну, а чавусцы? Няхай сабе скардзяцца...

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

## Бяда адна не ходзіць

***Ланцуговую трагічную рэакцыю выклікала дарожна-транспартнае здарэнне каля вёскі Лугамавічы Іўеўскага раёна.***

Спачатку скорасная "Аўдзі" збіла веласіпедыста. У момант, калі вадзіцель выскачыў з машыны, каб аказаць дапамогу пацярпеўшаму і абазначыць месца ДТЗ знакам аварыйнага прыпынку, на яго наляцеў "Мерседэс". Удар быў смяротным. Веласіпедыста таксама не ўдалося выратаваць — ён памёр па дарозе ў бальніцу.

**Белінфарм.**

### Аб сярэднямесячнай заработнай плаце рабочых і служачых

Мінстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у студзені 1995 года склала 369619 рублёў і ўзрасла ў параўнанні са студзенем 1994 года ў 16 разоў.

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.**

## Зашуміць-загамоніць жаночы кірмаш

**Віктар ЗАГРАДСКІ**

***У першы дзень вясны распачнецца выстава "Мінскі кірмаш — жанчынам", якая на працягу тыдня будзе праходзіць у павільёне "Мінскэкспо".***

Заявы на ўдзел у гэтым святочным прадстаўленні падалі ўжо звыш 100 розных гандлёвых фірм, у тым ліку і замежных. Гасцей кірмашу, і ў першую чаргу, безумоўна, жанчын, чакае шмат сюрпрызаў. Акрамя выдатнай магчымасці набыць першакласныя тавары па некалькі зніжаных цэнах, яны стануць сведкамі шоу-прадстаўлення — дзён моды. Сучасныя мадэлі адзення, абутку і розных аксесуараў для нашых прыгажунь будуць дэманстраваць агенцтвы Сашы Варламава і "Тамара". У кірмашы прымуць таксама ўдзел супермадэлі "Міс "Зачараванне", папулярныя эстрадныя выканаўцы.

## Выслабаненыя кватэры будуць заселены

Значны рэзерв для вырашэння жыллёвай праблемы тысяч афіцэрскіх сем'яў у беларускай арміі мае намер выкарыстаць Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Ён паведаміў аб гэтым на сустрэчы з ваеннаслужачымі ў час наведвання гарнізона ў Мар'інай Горцы. Аказваецца, у ваенных гарадках жывуць тысячы людзей, якія не маюць да арміі ніякіх адносін. Пачатая рэвізія паказвае, што ў гарнізонах закрыты на ключ сёння сотні, калі не тысячы кватэр, у той час як многія афіцэры не маюць уласнага жылля. А кватэры ж пабудаваны за кошт ваеннага бюджэту і стаяць на балансе Міністэрства абароны Беларусі, якому прыходзіцца траціць велізарныя сумы на аплату ацяплення, гарачай і халоднай вады, іншых камунальных паслуг, чым у пустых кватэрах ніхто, зразумела, не карыстаецца.

"Толькі ў вашым ваенным гарадку ў Мар'інай Горцы 77 такіх кватэр, — канстатаваў Прэзідэнт. — Цяпер, калі тыя, хто выехаў, адчулі, што набліжаецца рэвізія, кінуліся гэта жыллё купляць, маючы ўжо кватэры за межамі рэспублікі".

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што выслабаненыя кватэры, за рэдкім выключэннем, будуць заселены тымі, хто ў іх мае патрэбу на самай справе. Ён у гэты ж дзень распарадзіўся перасяліць з так званага модуля ў новую кватэру сям'ю капітана Ігара Казакова з хворай жонкай і дзіцем.

Здаецца, Прэзідэнту разам з Вярхоўным Саветам і ўрадам удасца вырашыць юрыдычны нонсенс, з-за якога Міністэрству абароны прыходзіцца даказваць сваё права на незаселеныя кватэры ва ўласных ваенных гарадках.

**Леанід ТРАЦЭЎСКІ, Белінфарм.**

## Сёння — Дзень абаронцаў Айчыны і Узброенных Сіл Рэспублікі Беларусь



❑ Гэтыя хлопцы з вучэбнай аўтамабільнай брыгады ў Плешчаніцах. (Рэпартаж з вайсковай часці, дзе рыхтуюць шафёраў і механікаў у пагонах і дзе моладзь набывае карысныя прафесіі на ўсё далейшае жыццё, чытайце ў адным з наступных нумароў газеты.)

РЭПАРЦЁР ДАВЕДАЎСЯ

## Ці могуць аб'яднацца Беларусь і Егіпет?

***Своеасабліва адрэагавалі студэнты Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны на збор подпісаў за аднаўленне СССР, які праводзіў каля універмага "Гомель" прадстаўнік пракамуністычнага руху "Адзінства і справядлівасць".***

Студэнты таксама сталі збіраць подпісы — за аб'яднанне Беларусі з Егіптам, супраць злачыннай змовы Цэзара і Клеапатры. Выгады саюзу з Егіптам моладзь растлумачыла тым, што Беларусь у выніку будзе мець танныя экзатычныя фрукты, зможа бяспошлінна плаваць па Суэцкім канале. Непрыкрытая пародыя, дасціпна прыдуманая студэнтамі, як нельга лепш характарызуе дзеянні шэрагу партый і рухаў, якія гатовы біцца за што хочаце, толькі не за станаўленне і ўмацаванне беларускай дзяржаўнасці.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

## Не заканчваецца мая вёска...

***Адзіны жыхар вёсачкі Клімавічы Брэсцкага раёна на сённяшні дзень — Соф'я Рыгораўна Сыч. Гады і падзеі раскідалі па свеце яе аднавяскоўцаў, пакінуўшы дажываць век адной у некалі ажыўленым мястэчку.***

А ў вёсцы Дамброўка Дамачоўскага пасялковага Савета жывуць толькі два пенсіянеры. Дарэчы, гэта не адзіныя населеныя пункты ў Прыбужжы, дзе ўсіх жыхароў можна пералічыць па пальцах. Гэта вёскі Мяневічы (3 чалавекі), Карабаны і Забярэззе (па 4 чалавекі), Вітошкі (7 чалавек). На жаль, сёння ўжо няма некалі "неперспектыўных" Сычыкаў, Калодна, Мураў...

Праўда, многія фермеры называюць свае сядзібы назвамі ранейшых вёсак.

**Сямён ЯРМОЛАЎ.**

## Чым не сродак супраць угону?

***У Мінску пры прыёме іншамарак на дзяржаўныя аўтастаянкі ўжо ў бліжэйшы час будзе выкарыстоўвацца коштавы каэфіцыент, які ўлічвае год выпуску і кошт аўтамабіля.***

Генеральны дырэктар Мінскага вытворчага аб'яднання гаражоў і аўтастаянак Павел Дубовік тлумачыць гэта тым, што іншамаркі больш трапляюць пад угон і трымаць іх на аўтастаянцы сёння проста нявыгадна.

**Марына АЖГІРЭЙ, РІД.**

ТАЙНЫ СЛЕДСТВИЯ

# За что убили Арцименю?

## Все, кого арестовывали по этому делу, выпущены на свободу. Они оказались чисты, как святые на иконах, или их вину просто не сумели доказать?

**Виктор ЛЕЩЕНКО**

Вечером 20 сентября 1993 года председатель Гродненского облисполкома Дмитрий Арцименя приехал на служебном "Мерседесе" в свой ухоженный особняк в центре города. Но дома задерживаться не собирался. Торопился на дачу. Прихватил еду, ящички с рассадой, попрощался с женой и вышел. У калитки в темноте вдруг мелькнул чей-то силуэт. Раздался странный и непонятный хлопок. Грудь обожгло. Раненый председатель еще добрел обратно до дома и постучал в дверь...

Пуля пробила ему легкое. Смерть наступила от сильного кровоизлияния. Как потом установили эксперты, стреляли из пистолета типа "Вальтер", и притом с очень близкого расстояния.

Так погиб губернатор, всесильный и могущественный в области человек, депутат Верховного Совета, руководитель с судьбой, привычной для своего поколения: родился в крестьянской семье, с 15 лет пошел учеником на завод, затем — институт, комсомольская, партийная работа. Последние десять лет глава облисполкома.

Республика была взбудоражена. Бродили невероятные слухи. Людская молва безжалостно разносила: коль убили — значит, есть за что, "с кем-то что-то не поделил".

На похороны из Минска прилетели глава парламента С.Шушкевич, премьер-министр В.Кебич.

Прибывший в Гродно прокурор республики В.Шолодонов возбудил уголовное дело. Вести его поручил Комитету госбезопасности (агентурные возможности большие).

С самого начала следствие столкнулось с необъяснимыми фактами. Почему место "казни" выбрали в городе, на улице, где случайно могли оказаться прохожие? Или свидетелей никто не опасался, так как стрелок неместный? Подбавил тумана и сам выстрел. Обычно ведь пулю пускают в голову. А тут буквально с нескольких метров "снайпер" не сумел попасть даже в сердце. Как считают врачи, если бы не столь сильное кровоизлияние при ранении, не исключено, председатель остался бы жить. Может, его собирались только припугнуть? Или дрогнула рука у исполнителя? И еще. Почему стреляная гильза оказалось во дворе? Могла ли она перелететь через высокий забор, которым обнесен особняк? Или Арцименю поджидали не на улице? Да и что за огромные деньги найдены в сейфе его рабочего кабинета? И почему Арцименя-младший, заявляя, что эти доллары и марки он просто отдал отцу на хранение за проданную иномарку, ошибся в сумме на несколько тысяч "зеленых"?

И последнее — транспорт наемного убийцы. Листая подшивки старых газет, отыскал сообщение МВД: преступники скрылись на "жигуленке" и BMW. Однако чуть позже заместитель Генерального прокурора республики В.Кондратьев заметил: "Все эти "сообщения" про автомобили на месте происшествия — чистой воды выдумка".

Через месяц после выстрела пошли разговоры, что КГБ арестовал участников расправы. А потом опять долгие месяцы молчания. И только недавно заместитель председателя Комитета госбезопасности И.Юркин как бы между прочим в интервью агентству Интерфакс заявил, будто им известно, кто убийца. Но объявлен ли тогда его розыск? Подтверждений, увы, найти не удалось.

Так что же происходит вокруг гибели губернатора? За что его "приговорили"? И кого реально сегодня подозревают?

### Вот выводы журналистского расследования.

Первая версия, на которой, кстати, настаивала жена погибшего, — политическое убийство.

Как известно, Арцименя входил во влиятельное прокоммунистическое парламентское объединение "Беларусь". Незадолго до смерти он принял участие в нашумевшем тогда "тайном вече", на котором Дмитрия Константиновича решили выдвигать на должность Председателя Верховного Совета. На том же собрании делились и другие властные портфели. Станислав Шушкевич, тогдашний спикер, в интервью главному редактору "Народной газеты" И.П.Середичу данный факт прокомментировал однозначно: "На тайных политических кухнях я не был, пальму первенства не делил, как и не кидал никому перчатку, называя ее розой". Спустя несколько месяцев после этих событий С.Шушкевича переизбрали. Политическая подоплека устранения Арцимени как одного из главных претендентов на пост главы парламента нынче не выдерживает никакой критики.

Вторая версия связана с возможными семейными конфликтами. Сперва много говорили о супружеских разногласиях. Якобы губернатор разошелся с женой. Упоминалось о неких виллах за границей, счетах в банках и даже предприятиях. Но ничему этому подтверждений найти не удалось. Более того, по свидетельству близких, жили они довольно мирно. Жена — директор частного ювелирного магазина, старший сын — председатель колхоза, младший — студент, подрабатывал коммерцией. В деньгах никто не нуждался, наоборот, рядом с таким отцом каждый чувствовал себя, как игрок, которому всегда идет отличная карта.

Третья версия, пожалуй, самая реалистичная, — председатель облисполкома перекрыл кому-то прибыльный канал, и убийство стало единственным средством убрать эту преграду. Вначале подозрение пало на белорусское госпредприятие, у которого в Гродненской области конфисковали 20 цистерн желтого фосфора. Есть сведения, что не обошлось здесь без участия Арцимени. Но, похоже, ликвидация предисполкома вряд ли принесла бы коммивояжерам хоть какую-то пользу. Ведь им бы пришлось дальше положить всех судей от районного до республиканского уровня, которые посчитали задержание эшелона законным.

Наиболее убедительным выглядит сегодня предположение, в центре которого находится 130 тонн никеля на общую сумму более полумиллиона долларов. Дело в том, что в июне девяносто третьего года в Островецком районе на белорусско-литовской границе таможня задержала четыре машины с этим цветным металлом. Шли они из Санкт-Петербурга в Калининград. По большому счету, нашу суверенную республику транзит должен был волновать так же, как крестьянина — спутники Юпитера. К тому же российская таможня "кортеж" пропустила. Но на островецком контрольно-пропускном пункте решили все проверить. Сделали запрос в необходимые инстанции. Ответ не заставил себя ждать — фирм, которые фигурируют в этой сделке, в Российской Федерации нет. Суд выносит постановление контробандный груз изъять. Гродненский облисполком распоряжается продать его за границу, а на вырученные деньги купить медикаменты. Вроде бы все законно и благородно. Однако, как поясняют сведущие люди, существуют тут и свои "тайны мадридского двора". Например, той же внешнеэкономической ассоциации "Неман" (к ней благоволил председатель, и она даже из бюджетных средств получала миллионные кредиты) никель могли отпустить уже не по биржевой цене, а несколько заниженной (не за 700 тысяч долларов, а всего, допустим, за 500 тысяч). Как бы делился потом скрытый валютный навар, можно лишь догадываться.

Однако хозяева металла не отступились. Ведь их-то фирмы существовали и были официально зарегистрированы, а вот откуда взялся ответ у белорусских таможенников, — это еще надо выяснить. Короче, повторный суд вынес решение груз вернуть владельцам.

Можно было б "цветную" эпопею посчитать досадным недоразумением и забыть, но когда в первых числах августа россияне загружали свой злополучный товар в машины и уже прогревали двигатели перед дорогой, с всеобщим приветом появился отряд милиции и, проигнорировав заключение суда, погрузку приказал остановить и взял никель раздора под свою охрану.

Сюжет начинал закручиваться похлеще, чем в романах Стивена Кинга.

Вскоре, по свидетельству друзей Арцимени, ему позвонил один из высших чинов Санкт-Петербурга и попросил не чинить препятствий землякам. Однако беседа ни к чему путному не привела, и в конце ее "ходатай" обронил примерно такую фразу:"Вы не понимаете, на что идете". Впоследствии эти слова приобретут зловещий смысл.

Но почему же гродненские власти действовали столь смело, если не сказать больше? Почему на выводы суда они реагировали, словно на груду металлолома? Или, в никелевой торговле было не все так чисто, как представлялось по документам? А может, Арцименя знал, что через область проходит контрабандный путь, с которого тут никто ничего не имеет? И не возмущала ли подобная "несправедливость" определенный круг лиц? Не стало ли также известно, что металл ни в какой Калининград не попадет и никогда не попадал, а осядет в Литве и оттуда прямиком уйдет на Запад? Возможно, глава облисполкома имел вдобавок информацию о том, что через банковский счет петербургской фирмы-отправителя не проходит ни одна финансовая операция, и ее роль — лишь легальное прикрытие для сделки, а калининградское предприятие-получатель вообще зарегистрировано по поддельному паспорту? Если предположить, что именно такими сведениями обладал губернатор, то все становится более или менее ясным.

В таком случае и звонок из Санкт-Петербурга можно расценить как участие в никелевом деле российских высокопоставленных чиновников. Тогда получается, что на этой дороге столкнулись две областные элиты. Но гродненцы, похоже, ни на грамм не сомневались в своей победе и в том, что "подарок" с берегов Невы будет реализовывать то предприятие, которое они выберут.

Вскоре "конфискованное" добро перевозится из района, где оно хранилось, в областной центр.

До питерцев стали доходить слухи о скорой продаже товара. Они, безусловно, понимали, что нужно незамедлительно искать выход. Ведь если к делу подключатся российские правоохранительные органы, может разгореться не мелкий пожар. Итак, главная преграда была в руководстве области, и в частности — в Арцимене.

Заезжие коробейники связываются с одним жителем Борисова, ранее судимым, правда, после отсидки занявшимся автобизнесом и разъезжающим по родному городу на шикарном джипе.

В день убийства губернатора борисовчанин и гость из Питера крутились в Гродно...

Как мне удалось узнать, примерно через месяц после рокового выстрела всю эту компанию арестовали. Однако "иностранцы" практически через неделю были отпущены, а наш герой просидел почти год. Но, видимо, доказать его причастность к исполнению "приговора" не удалось...

Но кто же тогда мог это сделать, если придерживаться данной версии? Нужно еще сказать, что заказные преступления раскрываются лишь тогда, когда пойман стрелок. Ведь организаторы без этой улики никогда не сознаются. Так кто мог нажать на курок? Из всей никелевой цепи пока выпадает литовское звено, которое отвечало за вывоз сырья на Запад. Что за люди там верховодили? По некоторым сведениям, среди них есть бывшие зэки, тесно связанные с уголовными авторитетами. Может, оттуда и приехал исполнитель?

В общем, сегодня в деле Арцимени вопросов, увы, на мой взгляд, больше, чем ответов.

Что же касается никеля, то его так и не отдали, несмотря на решение и третьего по счету суда, а приобщили к уголовному делу как вещественное доказательство. Продолжают ли "погоревшие" коммерсанты заниматься торговлей металлом? Как удалось узнать, — да. Но Гродненскую область объезжают стороной, как гиблое место. Почему?

### Необходимое послесловие

**Информация для этой статьи собрана из публичных сообщений высокопоставленных руководителей КГБ и прокуратуры, а также из бесед с людьми, пожелавшими остаться неназванными, но чья компетентность по данной теме не вызывает сомнений. Официально же следствие хранит странное молчание и на все просьбы отвечает скупо: "Пока еще рано о чем-либо говорить. Тайна следствия". Но какую тайну скрывают? Тайну, что сегодня появились убийства, которые организованы так, что не поддаются раскрытию? Что "палач" "казни" не сидит за решеткой? Что появился рынок "ликвидаторов" и нанять "охотника" так же просто, как домработницу? Что высокопрофессиональные следователи в разгадке кровавых головоломок дальше выяснения мотивов преступления не идут? Что в уголовном кодексе нет даже самого понятия "заказное убийство"? Что сегодня организаторы "суда" практически неуязвимы? Что исполнителя поймать не легче, чем словить выпущенную пулю? Из чего же делается тайна? Да и тайну ли из этого надо делать?..**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Прагноз "нябеснай канцылярыі": веснавое надвор'е захаваецца і на пачатку сакавіка

***Аглядальнік "Народнай газеты" Віктар ЧАРНУШЭНКА гутарыць з галоўным сіноптыкам Гідраметцэнтра Галоўгідрамета Беларусі Тамарай ЦЯРЭШЧАНКА:***

— Вясна, можна сказаць, пачалася напрыканцы зімы. Да апошніх дзён лютага захаваецца цёплае надвор'е. Сярэдняя тэмпература ўначы будзе трымацца каля нулявой адзнакі (ад -3 да +2°С), удзень — ад +2 да +7°С. У паўднёвых раёнах рэспублікі будзе цяплей на 2—3 градусы. Чакаецца дождж і мокры снег, але не больш звычайнай нормы. Метэазалежным людзям трэба сцерагчыся вялікіх перападаў атмасфернага ціску.

— Ці не вернуцца да нас халады-маразы?

— Гэта не выключана. Але толькі на вельмі кароткі тэрмін — на дні 4—5, не болей. За ўвесь час назіранняў абсалютны мінус (гэта было вельмі даўно) складае 26—28°С. Ёсць, дарэчы, і больш свежы прыклад: 3—5 сакавіка 1987 года тэмпература паніжалася да -24°С. Зафіксавана і самая высокая тэмпература за апошнія сто гадоў — +17—24°С. Не палохайцеся: такіх катаклізмаў у гэтым сакавіку не чакаецца.

— Снег амаль усюды сышоў поўнасцю, што прыбавіла вады ў рэках і вадаёмах. Не дай Бог яшчэ дажджлівае надвор'е — не мінаваць вялікай паводкі...

— Колькасць ападкаў, паводле нашых прагнозаў, не перавысіць сярэдні паказчык. Раней тэрміну (на 25—30 дзён) ускрыліся рэкі басейна Прыпяці і Нёмана. Яны поўнасцю ачысціліся ад лёду толькі ў асобных мясцінах вада ў поймах рэк паднялася на 20 см. Шырокіх разліваў няма.

Да канца лютага ўскрыюцца Днепр, Сож, Бярэзіна... У першай дэкадзе сакавіка — Заходняя Дзвіна. Цёплае надвор'е спрыяе буйному ледаходу. Таму найперш трэба сцерагчыся гэтай прыроднай з'явы.

## Урокі адмяняюцца — настаўнік не даехаў...

***Амаль на сто чалавек зменшылася ў гэтым навучальным годзе колькасць настаўнікаў сельскіх школ Салігорскага раёна. Прычым звольнілася большая частка тых, хто пражывае ў самім Салігорску.***

Справа ў тым, што дабрацца з горада ў вёску педагогам стала вельмі праблематычна — колькасць прыгарадных маршрутаў скарочана да мінімуму, цэны ж на білеты пастаянна растуць. Нярэдка пасля заканчэння школьных заняткаў настаўнікі вымушаны дабірацца дадому на спадарожных машынах.

Асабліва востра не хапае настаўнікаў замежных і беларускай моў, інфарматыкі. Напрыклад, у Харастоўскай сярэдняй школе замежная мова не выкладаецца з пачатку навучальнага года. Раённы аддзел адукацыі вымушаны прыцягваць да выкладання асоб, якія не маюць спецыяльнай педагагічнай адукацыі, выпускнікоў школ. У мінулым навучальным годзе ніхто з запатрабаваных райана трох маладых спецыялістаў — настаўнікаў замежнай мовы і фізкультуры — у раён не прыехаў. Адна з прычын малапрывабнасці вёскі для маладых спецыялістаў — адсутнасць тут жылля для іх.

**Анатоль МАКСІМАЎ, БелаПАН.**

### Уточнение

В материалах "Где нефть мира?", опубликованных в "Народной газете" 16 февраля 1995 г., к сожалению, допущены неточности. В иллюстрации о запасах нефти в России и других странах СНГ вместо цифры 59,2 ошибочно указана цифра 39,2. В последнем абзаце второй колонки в статье Станислава Гусака "выпало" слово "за тонну". Поэтому второе предложение этого абзаца следует читать так: "За дешевую российскую нефть Беларусь платила России 130 кг мяса за тонну, а дорогая нефть в Лондоне, Чикаго, Роттердаме стоит 25 кг мяса за тонну".

## За што пазбавілі слова дэпутата Марозава

20 лютага на сесіі Вярхоўнага Савета дэпутат ад ветэранскай арганізацыі Васіль Марозаў, які выступаў у "Розным", быў пазбаўлены слова. Выпадак гэты ў парламенцкай практыцы даволі рэдкі. Старшынствуючы на сесіі Мечыслаў Грыб, многія дэпутаты палічылі неабходным спыніць выступленне калегі, у якім у зневажальным тоне гаварылася аб дзяржаўных сімвалах Рэспублікі Беларусь. А прычынай для выступлення з парламенцкай трыбуны Васіля Марозава паслужыў зварот камуністаў Брэста і дэлегатаў абласной канферэнцыі ветэранаў, дзе, у прыватнасці, сцвярджалася, што прынятая тры гады таму Вярхоўным Саветам сімволіка быццам бы "ганьбіць беларускі народ, узбуджае непрыязнасць да Вярхоўнага Савета і цяперашняй улады, падрывае аўтарытэт дэпутатаў і ўрада".

Каменціруючы здарэнне, старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб падкрэсліў, што дзяржаўная сімволіка прынята ў заканадаўчым парадку і патрабуе паважлівых адносін. У той жа час ён адзначыў: пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета створана камісія, якая разглядае прапановы грамадзян, што датычаць дзяржаўнай сімволікі.

**Белінфарм.**

